Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!



IV СЭСІЯ ЦЭНТРАЛЬНАГА ВЫКАНАЎЧАГА КАМІТЭТУ Б. С. С. Р. VII СКЛІКАНЬНЯ

# БЮЛЕТЭНЬ

## № 1

18 студзеня 1927 г.



МЕНСК

## Да ведама прамоўцаў.

Усе прамоўцы, якія заўважаць недакладнасьці ў сваіх прамовах, зьмешчаных у бюлетэнях Сэсіі, павінны зараз-жа пасьля атрыманьня бюлетэню заявіць аб гэтым ў рэдакцыйную камісію. Гэтая заява і папраўкі павінны быць зроблены на працягу трох гадзін па выдачы бюлетэню. Пасьля гэтага тэрміну прамовы будуць аддавацца для друку ў стэнографічнай справаздачы Сэсіі, і ніякія заявы аб зьменах і папраўках прымацца ня будуць.

---

Менск. 1-я дзярж. друкарня зак. № 1152—300. Галаўлітбел № 23799.

# 1-ае пасяджэньне Чацьвертай Сэсіі ЦВК 7-га склiканьня.

*18-га студзеня 1927 году.*

Пасяджэньне адчыняецца а 6-й гадзіне ўвечары.

*Старшыня—тав. Чарвякоў А. Г.*

Тав. Чарвякоў: Таварышы! Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту склікаў IV чарговую Сэсію ЦВК, і яна пачынае сваю працу ў той момант, калі міжнародныя адносіны характарызуюцца новымі праявамі абвастрэньня. Тыя разнагалосьсі, якія існуюць паміж капіталістычнымі дзяржавамі, ня толькі ня згладжваюцца, але, наадварот, з кожным месяцам, з кожным годам усё больш павялічваюцца. І на гэтым, на агульным грунце міжнародных адносін яскрава праходзіць лінія імкненьняў буржуазных дзяржаў, якая накірована сваім вастрыём супроць Савецкага Саюзу і супроць Савецкай Беларусі ў тым ліку.

Апошнія дні мы маем шэраг заяў з боку кіруючых органаў буржуазнай прэсы — ангельскай і інш., дзе супроць Савецкага Саюзу робяцца рэзкія выпады з патрабаваньнем скасаваць адносіны паміж Савецкім Саюзам і паміж ангельскім урадам. Мы бачым, як палітыка ангельскага ўраду, што асабліва яскрава выявілася ў апошнія месяцы, накірована на тое, каб, узяўшы ў свае рукі кіруючую ролю ў эўропэйскіх справах, выкарыстаць гэтае сваё кіруючае палажэньне дзеля таго, каб сабраць сілы і накіраваць іх супроць Савецкага Саюзу.

Мне здаецца, што мы ня зробім вялікай памылкі, калі, маючы на ўвазе такое разуменьне падзей у Эўропе, будзем ацэньваць усе выпадкі ў суседніх дзяржавах і, у прыватнасьці, у Польшчы. Цяпер ужо нават тыя чудакі, якія зьвязвалі з майскім пераваротам у Польшчы некаторую надзею на новую эру ў становішчы нацменшасьцяй, рабочых і сялян у Польскай рэспубліцы,—на справе ўбачылі, што майскі пераварот быў ня чым іншым, як пераваротам для замацаваньня буржуазнага ладу ў Польскай рэспубліцы, і што ўсе імкненьні сучаснага ўраду Польшчы накірованы на тое, каб канчаткова прыдушыць барацьбу рабочых і сялян, барацьбу прыгнечаных нацыянальнасьцяй, і каб гэтым забясьпечыць магчымасьці для далейшага разьвіцьця польскага імпэрыялізму.

І вось, гэтая палітыка і адпавядае імкненьням і напрамкам палітыкі ангельскага ўраду.

Таму, таварышы, нічога дзіўнага няма ў тым, што нават, калі вы возьмеце і будзеце чытаць заграмічную прэсу, напрыклад, германскія газэты, дык знойдзеце там заявы аб тым, што сучасная палітыка польскага ўраду падпарадкуецца задачам ангельскага ўраду. Гэта значыць, што калі гэта так у рачаіснасьці, дык палітыку польскага ўраду трэба лічыць накіраванай таксама супроць Савецкага Саюзу.

Нядаўна адбыўся фашыцкі пераварот у Літве. Гэты пераварот пакуль што яшчэ ня выявіў канчатковых мэт, якія стаялі перад ініцыятарамі гэтага перавароту. Але нам здаецца, ужо і цяпер можна разумець, што гэты пераварот у значнай сваёй частцы праходзіў пад беспасрэдным уплывам агульных задач ангельскай палітыкі і пры

блізкім удзеле ў гэтым перавароце некаторых колаў польскага буржуазнага грамадзтва. Паставіўшы ў сувязь усе гэтыя зьявішчы апошніх дзён, мы можам бачыць, што ў міжнародных адносінах складаюцца такія абставіны, пры якіх небясьпека для Савецкага Саюзу з боку буржуазнага сьвету робіцца ўсё больш яўнай. І таму кожны з нас, асабліва ў Савецкай Беларусі, якая знаходзіцца на мяжы з буржуазнымі дзяржавамі, павінен з асаблівай уважлівасьцю адносіцца да міжнародных адносін, дзеля таго каб быць гатовым у патрэбны момант да адпору нашых ворагаў і дзеля таго, каб, абараніўшы нашу мяжу забясьпечыць нам магчымасьць спакойнай працы.

Калі, таварышы, наша савецкая прэса зьвярнула ўвагу на некаторыя артыкулы ў афіцыйнай польскай прэсе з лёзунгамі „за Буг!“, „за Неман!“ і г. д. і г. д., дык у вадказ на гэта польская прэса прыняла шэраг мотываў, каб давесьці, што гэтыя артыкулы зусім не адбіваюць імпэрыялістычных замыслаў сучаснага польскага ўраду. Сярод гэтых мотываў быў і мотыў, што Польшча, у параўнаньні з Савецкім Саюзам, зьяўляецца невялікай дзяржавай, і таму (так гаварылася ў гэтых газэтах) не Савецкаму Саюзу трэба баяцца польскага імпэрыялізму, а, наадварот, Польшчы трэба баяцца савецкага чырвонага імпэрыялізму.

Значыцца, каб адвесьці ад сябе абвінавачаньні ў імпэрыялізьме, польская буржуазія гэтыя абвінавачваньні накіроўвае ў іншы бок. Гэта ёсьць звычайны мэтод, які заўжды выкарыстоўваюць буржуазныя дзяржавы, каб гэтым прыкрыць свае рачаісныя імкненьні.

Калі мы выяўляем імпэрыялістычныя замыслы буржуазных колаў і буржуазных дзяржаў, дык яны звычайна ў адказ на гэта імкнуцца прывесьці довады аб тым, што быццам існуе нейкі чырвоны Савецкі імпэрыялізм, і што ён пагражае ўсяму сьвету вайной, і што з боку гэтага чырвонага савецкага імпэрыялізму для ўсяго сьвету існуе небясьпека ў справе вайны.

Да катэгорыі такіх абвінавачваньняў трэба аднесьці, напрыклад, тую кампанію, якую ў апошнія дні распачала нямецкая прэса: яна пачала абвінавачваць Савецкі Саюз у тым, што быццам ён перасылае ў Нямеччыну зброю, гранаты, амуніцыю і г. д. дзеля таго, каб дапамагчы нямецкім імпэрыялістым узброіцца і пайсьці вайною, супроць ну, напрыклад, Польшчы. Найлепшым адказам на ўсе гэтыя абвінавачаньні нас у імпэрыялізьме зьяўляецца тое, што мы, склікаўшы IV сэсію ЦВК у момант гострых міжнародных адносін, павестку дню пабудавалі ў шэрагу пытаньня глыбока мірнага значэньня. Усе пытаньні, якія прэзыдыум прапануе сэсіі да разгляду, носяць таварышы, глыбока мірны характар. Такі парадак дню лепш за ўсё сьведчыць аб тым, што аб вайне, дзеля заваёваў новых тэрыторый рабочыя і сяляне Сав. Саюзу і Сав. Беларусі ня думаюць. Рабочыя і сяляне і наша працоўная інтэлігенцыя, якія вядуць бязупынную барацьбу за палепшаньне нашага агульнага экономічнага і культурнага палажэньня, за палепшаньне нашага дабрабыту, жадаюць мірнае працы. І мы, таварышы, на чарговай IV-й сэсіі павінны весьці сваю работу такім парадкам, каб яшчэ больш умацаваць і прысьпешыць агульнае нашае будаўніцтва, дзеля далейшага разьвіцьця будаўніцтва соцыялізму. Зразумелая справа, што мы ня маем права заплюшчваць вочы на небясьпеку з боку буржуазных дзяржаў, і мы памятуем аб гэтым, будуем Чырвоную армію, якая ахоўвае нашу граніцу. Гэтая Чырвоная армія здолее ў патрэбны момант выступіць для таго, каб вырашыць усе спрэчныя пытаньні, Савецкі ўрад робіць усе крокі для таго, каб Чырвоная армія была гатова для вырашэньня ў патрэбны момант тых задач, якія перад ёю

стаяць. Вось, таварышы, з поўнаю ўпэўненасьцю ў тым, што Чырвоная армія заўжды здолее абараніць нашу мірную працу, і што на дапамогу нам ідзе сусьветны рэволюцыйны ўздым працоўных, які канчаткова зьнішчыць буржуазную ўладу, мы сёньня будзем весьці работу па ўмацаваньню палажэньня Савецкае Беларусі.

Наша праца павінна пайсьці ўперад з яшчэ большым посьпехам, чым да гэтага часу, бо Савецкая Беларусь, дзякуючы няўхільнай і цьвёрдай лініі Компартыі і Савецкай улады ў справе нацполітыкі, згуртавала ў сваіх межах тэрыторыі з большасьцю беларускага насельніцтва.

Савецкая Беларусь павялічыла сваю тэрыторыю, лік насельніцтва пашырыла базу дзеля свайго экономічнага і культурнага будаўніцтва і ўзмацніла гэтым магчымасьці вырашэньня цяжкіх пытаньняў соцыялістычнага будаўніцтва. Савецкая Беларусь ёсьць частка Савецкага Саюзу, які зьяўляецца адзінай дзяржавай, дзяржавай добраахвотнай сувязі паміж Савецкімі Рэспублікамі.

Узмацненьне Савецкай Беларусі забясьпечвае ўзмацненьне Савецкага Саюзу.

Такім чынам, на IV-й Сэсіі мы можам прадэмонстраваць перад усім сьветам, як узмацняецца Савецкая дзяржава на падставе правідловага вырашэньня нацыянальнага пытаньня.

І гэта набывае яшчэ большае значэньне таму, што сучасны момант у міжнародных адносінах можа служыць лепшым доказам, што панаваньне буржуазіі будуецца толькі на падставе прыгнечаньня слабых мацнейшымі і што нацыянальнае пытаньне ніколі ня вырашыць буржуазія.

Сёньня мы маем на Сэсіі прадстаўнікоў Рэчыцкае і Гомельскае акруг, якія прыехалі па пропозыцыі Прэзыдыуму ЦВК, каб прыняць удзел у нашай працы.

Прывітаем, таварышы, у іх асобе рабочых і сялян і ўсіх працоўных Рэчыцкае і Гомельскае акруг і разам, агульнымі сіламі, будзем вырашаць пытаньні мірнае працы і соцыялістычнага разьвіцьця Савецкае Беларусі.

IV-ю Сэсію ЦВК Беларусі аглашаю адчыненай.

Слова для прапаноў мае таварыш Чарнушэвіч.

Тав. Ч а р н у ш э в і ч: Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту прапануе прыняць на гэтай Сэсіі наступны парадак дню:

1. Аб пашырэньні тэрыторыі Беларускае Савецкае Соцыялістычнае Рэспублікі.
2. Дзяржаўны бюджэт і асновы мясцовага бюджэту на 1926-27 г.
3. Даклад Народнага Камісарыяту Замежнага і Унутранага Гандлю.
4. Водна-Мэліорацыйны Кодэкс.
5. Чарговыя заданьні ў справе разьвіцьця дзяржаўнае і мясцовае прамысловасьці.
6. Зацьверджаньне Кодэксу аб шлюбе, сям'і і апецы.
7. Даклад Цэнтральнае Статыстычнае Ўправы аб Усесаюзнай перапісі.
8. Зацьверджаньне пастаноў, прынятых Прэзыдыумам ЦВК у пэрыод паміж III і IV-ю Сэсіямі ЦВК.
9. Зьмены ў складзе ўраду БССР.

Тав. Ч а р в я к о ў: Ці ёсьць пытаньні? (Г а л а с ы з м е с ц. Н я м а).

Ці прымаюцца прапановы т. Чарнушэвіча?

Я стаўлю гэтае пытаньне на галасаваньне. (П р а п а н о в а п р ы м а е ц ц а).

Тав. Чарвякоў: Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту прапануе прыняць наступны рэглямэнт: пасяджэньні Сэсіі ЦВК адбываюцца ад 10-ці да 2-х гадз. дню, а потым пасьля перапыну ад 5-ці да 8-мі гадз. вечара.

Прэзыдыум ЦВК разьмяркоўвае час для дакладаў і садакладаў. У спрэчках слова ў першы раз даецца на 15 мін., у другі раз на 5 мін. Запісі на спрэчкі робяцца праз падачу запісак у Прэзыдыум.

Слова па асобных пытаньнях даецца ў канцы пасяджэньня на 5 мін.

У гэтым рэглямэнце ёсьць адна маленькая навіна,—якая тычыцца дакладчыкаў і згодна якое Прэзыдыум рэгулюе тэрміны прамовы дакладчыка. Зразумелая справа, што ўсе даклады нельга ўлажыць у аднолькавыя рамкі, і час будзе разьмяркоўвацца ў залежнасьці ад важнасьці дакладу. Вось чаму гэтая зьмена ў рэглямэнт і прапануецца вам. Я стаўлю пытаньне аб рэглямэнце на галасаваньне. (Рэглямэнт прымаецца).

Цяпер пяройдзем да разгляду пытаньняў. Першым пытаньнем стаіць даклад аб пашырэньні тэрыторыі БССР. Слова для дакладу мае старшыня Саўнаркому т. Адамовіч (Бурныя воплескі).

Тав. Адамовіч. Таварышы, кожны можа спытаць нас, чаму Савецкая Соцыялістычная Беларуская Рэспубліка пашыраецца і ў склад яе ўваходзяць новыя тэрыторыі—Гомельская і Рэчыцкая акругі.

Для таго, каб адказаць на гэтае пытаньне і каб яно было больш ясным усім рабочым і сялянам, трэба ў некалькі словах коратка ўстанавіць, у чым заключаюцца асноўныя моманты нацыянальнае палітыкі, якую праводзіць Комуністычная партыя і Савецкая ўлада.

Наша нацыянальная палітыка выходзіць, перш усяго, з таго прынцыпу, што ў будаўніцтве соцыялізму павінны прымаць удзел найбольш шырокія слаі працоўных усіх нацыянальнасьцяй і што ў будаўніцтве соцыялізму пролетарыят нацыянальнасьцяй культурна і гаспадарча больш разьвітых павінен дапамагчы пролетарыяту тых нацыянальнасьцяй, якія ў выніку ранейшае царскае палітыкі спазьніліся ў сваім разьвіцьці.

Для таго, каб утварыць найбольш добрыя ўмовы для разьвіцьця усякае нацыянальнасьці, мы заяўляем, што самая адсталая нацыянальнасьць мае права і магчымасьць самавызначэньня, права ўтварыць сваю нацыянальную рэспубліку, калі гэта вымагаецца яе патрэбамі. Іменна гэты асноўны прынцып ляжыць у падставе ўсяе конституцыі СССР.

Гэтая нацыянальная палітыка ўжо за параўнаўча кароткі пэрыод на практыцы паказала ўсю сваю жыцьцёвасьць і мэтазгоднасьць, бо яна аб'яднала ўсе нацыянальнасьці ў брацкай згодзе, у адным імкненьні—будаваць соцыялізм—і зьнішчыла ўсе моманты нацыянальнай розьніцы і прасьледваньняў, якія сеяў царскі ўрад у працягу ўсяго пэрыоду свайго панаваньня.

Наша нацыянальная палітыка паказала таксама і тое, што толькі рабочая кляса, якая ў выніку Кастрычнікавае рэволюцыі скінула ўладу буржуазіі, можа вырашыць усе свае пытаньні ў інтарэсах больш пасьпяховага гаспадарчага і культурнага разьвіцьця краіны і ў інтарэсах паляпшэньня становішча працоўных.

З гэтае прычыны на запытаньне, чаму пашыралася тэрыторыя БССР, мы адказваем: гэта ёсьць вынік нашае нацыянальнае палітыкі, якая на вопыце даказала сваю жыцьцёвасьць і правільнасьць.

Вы ведаеце, таварышы, з гісторыі нашае рэволюцыі, з гісторыі нашае барацьбы, што Савецкая Беларусь організавана ў 1919 годзе. Ёй давялося вытрымаць цэлы шэраг боек з капіталістычным сьветам за

сваё існаваньне, якія яна вяла разам з расійскім пролетарыятам. Калі Савецкая ўлада ў Беларусі і ва ўсёй Савецкай Расіі стала замацавалася, калі скончыўся пэрыод непасрэдных вайсковых сутычак з буржуазным сьветам і ў прыватнасьці з Польшчай, мы ў 1924 годзе здолелі ўжо паставіць упяршыню пытаньне аб далучэньні да Беларусі тэрыторый Віцебшчыны, Магілеўшчыны і часткі Смаленшчыны, там, дзе большасьць насельніцтва складаюць беларусы.

Усяго два гады прайшло ад моманту першага далучэньня да цяперашняга далучэньня Гомельшчыны. За гэты час мы ўзмацнілі ў гаспадарчых і культурных адносінах Савецкую Беларусь і даказалі, што пры правільным правядзеньні нацыянальнае палітыкі адсталыя нацыянальнасьці з большым посьпехам і хутчэй уцягваюцца ў савецкае будаўніцтва, у інтарэсах гаспадарчага і культурнага разьвіцьця краіны, у інтарэсах устанаўленьня нацыянальнага міру, а, значыцца, і ў інтарэсах соцыялізму. Гэтым мы даказалі, што і апошняя частка беларускага насельніцтва, якая жыве компактнай масай у межах РСФСР, мае такое-ж права атрымаць тыя-ж магчымасьці для нормальнага гаспадарчага і культурнага разьвіцьця.

Далучэньнем да Беларусі Гомельшчыны і Рэчыцы мы фактычна зьдзейсьнілі імкненьне беларускага сялянства, імкненьні, якія, можа, іншы раз былі слаба ўсьвядомлены, але зусім правільныя і здаровыя— жыць, працаваць і разьвіваць сваю гаспадарку ва ўмовах найбольш блізкіх да гэтага сялянства; ва ўмовах, пры якіх яно можа атрымаць адказ ад савецкае ўлады па цікавячых яго пытаньнях на роднай мове, ва ўмовах існаваньня школы на беларускай роднай мове; ва ўмовах найбольш шчыльнага зближэньня сялянства і ўсіх працоўных мас з савецкаю ўладаю і Комуністычнаю партыяй.

Ці будзе далей пашырана тэрыторыя БССР? Мы на гэта нічога ня можам адказаць проста з тэй прычыны, што гэтае пытаньне не стаіць у нас на чарзе дню. Мы добра ведаем, што ўсе тэрыторыі РСФСР, населеныя ў пераважнасьці беларускім насельніцтвам, аб'ядна元ліся ў межах Беларускае Савецкае Дзяржавы. Але мы, зразумела, ведаем, што тыя беларускія рабочыя і сяляне, якія сёньня яшчэ стогнуць пад польскай буржуазнаю ўладаю, якіх сёньня арыштоўваюць і расстрэльваюць толькі за тое, што яны зьбіраюцца на сход для абгаварэньня тых ці іншых сваіх пытаньняў, толькі за тое, што яны хочуць мець сваю нацыянальную беларускую школу і вучыць сваіх дзяцей на роднай мове, урэшце, толькі за тое, што яны гавораць на беларускай мове і хочуць чуць адказ на гэтай мове ў тых установах, з якімі ім даводзіцца ў сваёй штодзеннай практычнай рабоце стыкацца, толькі за тое, што яны належаць да прыгнечанае рабочае клясы,—мы ведаем, што рабочыя і сяляне Заходняе Беларусі імкнуцца да аб'яднаньня з рабочымі і сялянамі Савецкага Саюзу. І зразумела, калі польскаму пролетарыяту разам з рабочымі і сялянамі Заходняе Беларусі і Заходняе Украіны ўдасца скінуць са сваіх плеч іга польскае буржуазнае ўлады, дык гэта будзе залогам для рабочых і сялян Заходняе Беларусі, што яны змогуць аб'яднацца ў аднэй Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспубліцы.

І тады мы зможам лічыць канчаткова вычарпаным пытаньне аб аб'яднаньні ўсіх тэрыторый, населеных беларускім насельніцтвам, у Беларускай Савецкай рэспубліцы.

Але, паўтараю, гэтае пытаньне у нас на чарзе сёньнешняга дню не стаіць; інакш мы-б не падпісвалі Рыскае мірнае ўмовы. І вы добра ведаеце, што хоць польская буржуазія цяпер ўсюды распаўсюджвае чуткі аб тым, што Савецкі Саюз, быццам-бы, хоча вайны, што мы,

быццам, утвараем усякага роду вайсковыя організацыі і саюзы, накіраваныя супроць Польшчы,—усё гэта падман і выдумка польскае буржуазіі, якія яна ўжывае для таго, каб схаваць свае сапраўдныя замеры, свае мерапрыемствы па падрыхтоўцы да вайны.

Мы вайны весьці ня хочам. Калі паглядзіце наш бюджэт, дык убачыце, што аграмадная, асноўная частка ўсіх нашых сродкаў накіравана на аднаўленьне гаспадаркі, на адраджэньне і ўзмацненьне культурных мерапрыемстваў, на паляпшэньне наогул становішча працоўных; і толькі невялікая частка нашых сродкаў ідзе на мерапрыемствы вайсковае абароны. І, наадварот, ніхто ня робіць больш таго, што робіць сама польская буржуазія для падрыхтоўкі вайны: больш аднэй трэці бюджэту буржуазнае Польшчы ідзе на вайсковую падрыхтоўку; усе крэдыты, якія яна атрымоўвае ад Англіі і ад другіх буржуазных дзяржаў, галоўным чынам, выкарыстоўваюцца на ўзброеньне, на падрыхтоўку да вайны.

І, урэшце, мы ня можам інакш, як толькі натуральным вынікам вялікадзяржаўнае і імпэрыялістычнае політыкі Польшчы, вытлумачыць тую апошнюю провокацыю, якую польскі буржуазны ўрад ужыў у барацьбе з беларускім нацыянальным рухам. Вы ўсе ўжо ведаеце аб апошніх арыштах, аб апошніх прасьледваньнях усіх беларускіх нацыянальных організацый у Польшчы; арыштоўваюцца нават беларускія дэпутаты сойму—Тарашкевіч, Рак-Міхайлоўскі і іншыя; яны арыштоўваюцца з парушэньнем нават „конституцыі" Польскай рэспублікі, бо па гэтай конституцыі дэпутаты сойму могуць быць перададзены пад загад прокуратуры толькі па пастанове сойму, а ў даным выпадку выходзіць наадварот: раней арыштоўваюцца, а пасьля аб гэтым даводзіцца да ведама маршалка сойму.

Польская буржуазія, у вадказ на ўсе гэтыя абвінавачаньні ў прасьледваньні беларускага нацыянальнага руху, заяўляе, што яна не вядзе барацьбы з беларускім нацыянальным рухам, бо сярод арыштаваных ёсьць ня толькі беларусы, але яўрэі, рускія і г. д. Але гэта ўсё ёсьць толькі дымавая заслона, якой польская буржуазія хоча прыкрыць той рэжым прыгнечаньняў, які яна ўстанавіла ў адносінах да ўсіх нацыянальнасьцяй і, у прыватнасьці, у вадносінах да беларускіх рабочых і сялян.

Зразумела, беларускія працоўныя, якія стогнуць пад нацыянальным, політычным і гаспадарчым прыгнечаньнем Польшчы, ніколі ня згодзяцца з гэтым становішчам, і заўсёды іх погляды будуць накіраваны на Ўсход, дзе яны бачаць узор таго, як сапраўды трэба будаваць сваё жыцьцё і работу для таго, каб ня было нацыянальнага і соцыяльнага прыгнечаньня. Яны бачаць, як жывуць і вядуць сваю работу рабочыя і сяляне Беларускай Савецкай Рэспублікі. Зразумела, з гэтай прычыны беларускі нацыянальны рэволюцыйны рух у Польшчы будзе заўсёды зьяўляцца пагрозай існаваньню польскай буржуазіі, і натуральна, што яна з гэтай прычыны зробіць спробу вытруціць усё, што толькі адносіцца і зьвязана з барацьбой за свае правы нацыянальных меншасьцяй у Польшчы. Польская буржуазія гэтую барацьбу вядзе па раней распрацаванаму пляну, які заключаецца ў тым, каб усіх кіраўнікоў гэтай нацыянальнай рэволюцыйнай барацьбы зьнішчыць з тым, каб пасьля паставіць сваіх стаўленікаў. Мы бачым, што польская буржуазія, з аднаго боку, арыштоўваючы беларускіх дэпутатаў і ўсіх тых, хто змагаецца за нацыянальнае культурнае вызваленьне, за вызваленьне з-пад уплыву польскай буржуазіі, з другога боку, праз свой друк нават як быццам абяцае розныя аўтономіі нацыянальным меншасьцям і г. д.,—гэта ёсьць дымавая заслона, якой польская бур-

жуазія хоча завесіць нашы вочы ад праўды. А праўда заключаецца ў тым, што буржуазная Польшча ніяк ня можа згадзіцца з існаваньнем на сваёй тэрыторыі другіх нацыянальнасьцяй, роўнапраўных з польскай нацыянальнасьцю; польская буржуазія стараецца паставіць пад сваё кіраўніцтва ўсе другія нацыянальнасьці, ня лічачыся з іх інтарэсамі.

Зусім другое становішча мы маем у Савецкім Саюзе, дзе толькі з тэй прычыны, што наша нацыянальная палітыка ёсьць частка нашай агульнай клясавай палітыкі, і дзе правільная клясавая палітыка дыктуе таксама правільную нацыянальную палітыку,—іменна з гэтай прычыны мы маем хуткі тэмп узмацненьня гаспадаркі, адраджэньня культуры ўсіх народаў і ўсіх нацыянальнасьцяй, што насяляюць Савецкі Саюз. Іменна, дзякуючы нашай правільнай нацыянальнай палітыцы, у нас забясьпечана назаўсёды нацыянальная згода.

Польская буржуазія для таго, каб схаваць праўду, гаворыць, што мы быццам-бы хочам вайны. Таварыш Чарвякоў ужо зазначыў, што ні аб якой вайне мы сёньня ня думаем і што гэтыя заявы буржуазнай Польшчы ёсьць чарговы падман працоўных для таго, каб схаваць свае сапраўдныя замеры і сапраўдную палітыку—імпэрыялістычную палітыку буржуазіі.

Мы ні аб якой вайне з кім-бы то ні было ня думаем. Другая справа, што мы павінны рыхтавацца да вайны, якую нам навязвае палітыка буржуазіі. Нас прымушае весьці падрыхтоўку для абароны сябе і сваіх заваёў польская, ангельская і сусьветная буржуазія, якая імкнецца падарваць нашы ўстоі, наш аўторытэт, разбурыць гаспадарчыя і культурныя заваёвы Савецкага Саюзу.

Палітыку міра мы няўхільна праводзілі да гэтага часу, будзем яе праводзіць і надалей. Сама павестка дня нашай Сэсіі ЦВК і павестка дня Саюзнай Сэсіі ЦВК гаворыць ужо аб тым, куды мы ідзем, якія пытаньні мы ставім у нашай рабоце. Гэта—ня пытаньні вайны, а пытаньні міру, пытаньні мірнай гаспадарчай работы. Мы хочам будаваць соцыялізм; мы хочам, каб у будаўніцтве соцыялізму прымалі ўдзел пад кіраўніцтвам Комуністычнай партыі рабочыя і сяляне ўсіх нацыянальнасьцяй, якія насяляюць Савецкі Саюз; мы хочам аднаўляць гаспадарку, мы хочам разьвіваць культуру,—мы хочам узмацняць нашы мірныя заваёвы.

Але, адначасна з гэтай мірнай работай, паколькі мы бачым ваенную падрыхтоўку супроць нас з боку ўсяго буржуазнага сьвету, мы павінны быць падрыхтаванымі да таго часу, калі гэтая буржуазія праз свайго найміта--польскую буржуазію—пойдзе ваяваць з намі; і паколькі Савецкая Беларусь зьяўляецца тым плацдармам, дзе, у першую чаргу, пачнуць разьвівацца бойкі паміж пролетарыятам і сусьветнай буржуазіяй, пастолькі мы павінны накіраваць усю нашу работу такім чынам, каб узмацняць наша становішча шляхам узмацненьня сувязі гораду з вёскай, рабочай клясы з сялянствам, шляхам утварэньня моцнай дзяржавы—Савецкай Соцыялістычнай Беларускай Рэспублікі, як часткі Савецкага Саюзу. Наша далейшае ўзмацненьне мы зьвязваем з далейшым разьвіцьцём нашых гаспадарчых і культурных дасягненьняў, з далейшым пашырэньнем нашых перамог на гаспадарчым фронце.

У гэты бок накіравана цяпер уся ўвага партыі і савецкіх органаў. Вы ўсе ведаеце, што на падставе пастаноў зьездаў партыі, зьездаў Саветаў, мы заняліся, галоўным чынам, гаспадарчымі пытаньнямі, і раней за ўсё пытаньнямі індустрыялізацыі нашай краіны, бо для таго, каб быць моцнай краінай, якая-б здолела вытрымаць экономічную

і вайсковую блёкаду буржуазных дзяржаў, нам патрэбна мець магутную прамысловасьць. Гэта-ж задача, як асноўная, стаіць і ў нас, у Савецкай Беларусі. Савецкая Беларусь цяпер, пасьля аб'яднаньня з Гомельшчынай, мае ўсё неабходнае для далейшага пашырэньня сваёй гаспадаркі і ўзмацненьня яе. Наша рэспубліка займае добрае геаграфічнае палажэньне; чыгуначныя і водныя шляхі шчыльна зьвязваюць нас з другімі рынкамі Савецкага Саюзу; мы маем багатыя лясы, сельская гаспадарка дае ўсё, патрэбнае для прамысловасьці, якая ўсё больш разьвіваецца; разьвіцьцё прамысловасьці, такім чынам, выклікае разьвіцьцё і павялічэньне таварнай часткі ў сельскай гаспадарцы, а значыцца, і палепшаньне становішча сялянства; урэшце, наличнасьць вялікай колькасьці вольнай рабочай сілы, выкліканая нашай аграрнай перанаселенасьцю, зноў-ткі штурхае нас да пашырэньня і ўзмацненьня нашай гаспадаркі.

Наша рэспубліка, як і большая частка Савецкага Саюзу, зьяўляецца пераважна сельска-гаспадарчай краінай, дзе галоўную ролю грае сялянства. Аднак, за апошнія гады мы павялічылі адносную вагу прамысловасьці, і цяпер, у сувязі з далучэньнем да нас Гомельшчыны з даволі моцнай і разьвітай прамысловасьцю, гэтая адносная вага яе ва ўсёй нашай гаспадарцы яшчэ больш павялічаецца.

К сучаснаму моманту Савецкая Беларусь зьяўляецца ўжо даволі значнай дзяржавай, большай цэлага шэрагу нашых суседніх буржуазных дзяржаў, як Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя, а таксама шэраг другіх буржуазных дзяржаў, як Данія, Бэльгія, Швайцарыя і г. д. БССР па тэрыторыі займае 125,000 кв. кілёмэтраў і налічае да 5 міл. насельніцтва. Апошняе далучэньне дало павялічэньне Беларускай Рэспублікі па тэрыторыі на 14 проц., а насяленьня—на 15 проц.

Пашырэньне тэрыторыі Беларусі, зразумела, не мяняе тых практычных задач, якія стаяць як перад усёю БССР, гэтак і, у прыватнасьці, перад далучанымі раёнамі. Гэтыя задачы толькі могуць быць лепш і з большым посьпехам ажыцьцёўлены ў зьвязку з далучэньнем. І, зразумела, мы будзем імкнуцца рабіць усё магчымае для таго, каб у далучаных да нас раёнах гаспадарка і ў далейшым разьвівалася, як і раней.

Наша галоўная задача—разьвіцьцё і ўмацаваньне гаспадаркі і культуры—у зьвязку з далучэньнем Гомельшчыны атрымала больш магчымасьці для свайго пасьпешнага прадаўжэньня. Трэба спадзявацца, што разам з Гомельшчынай мы будзем хутчэй аднаўляць і разьвіваць социялістычныя элемэнты ў Беларусі, чым гэта рабілася да гэтага часу. Да гэтае пары меўся цэлы шэраг дасягненьняў ў нашай рабоце: у галіне прамысловасьці мы падышлі сьцісла да даваеннага узроўню, у галіне сельскай гаспадаркі мы таксама сьцісла падышлі да даваеннага узроўню ня толькі ў адносінах колькасьці пасеваў, а і ў адносінах долі нязбожжавых тэхнічных культур. У галіне-ж разьвіцьця асьветы мы ў многіх галінах перашагнулі даваенны ўзровень: мы маем школ больш, чым у даваенны час, мы маем шэраг вышэйшых навучальных установ, якіх ня было да рэволюцыі. Але побач з гэтымі дасягненьнямі ў нас ёсьць і хібы, як-то: вялікае беспрацоўе, недахват прамысловых тавараў і іх даражыня. Дзеля гэтага ў галіне прамысловасьці стаяць перад намі і ў далейшым задачы ўмацаваньня яе. І калі мы хочам яшчэ з большым посьпехам умацаваць нашую гаспадарку і палепшыць палажэньне працоўных, дык павінны ўмовіцца аб тым, каб ў далейшым гэтую прамысловасьць разьвіваць яшчэ больш шпаркім тэмпам, чым гэта рабілася да гэтае пары.

Далейшае разьвіцьцё нашае прамысловасьці ўпіраецца ў недахват асноўнага капіталу яе, у недахват апалу, у дрэнную мэханізацыю і г. д. Дзеля гэтага, перад намі ў галіне прамысловасьці стаіць галоўная задача—рэконструкцыя яе на новых пачатках, і першым крокам у ажыцьцяўленьні гэтай задачы зьяўляецца забясьпечаньне яе танным і выгодным апалам, а для гэтага нам трэба выкарыстаць лепш, чым дагэтуль, нашы энэргетычныя сілы, у прыватнасьці, торф, якога ў нас, на Беларусі, ёсьць многа, але які дагэтуль ня выкарыстаны так, як-бы нам гэтага хацелася. Вось гэтаю неабходнасьцю ў большай ступені выкарыстаць нашыя прыродныя энэргетычныя магчымасьці—торф і выклікалі мерапрыемствы Савету Народных Камісараў у галіне вызначэньня работ па пабудове Асінаўскае Раённае Электрычнае Станцыі, якая дасьць нам 30.000 кілоўат і абыйдзецца, прыкладам, каля 15.000 рублёў. Гэтая станцыя забясьпечваецца торфам блізка на 200 год і зьявіцца магутным штурхачом рэконструкцыі прамысловасьці, якую яна будзе абслугоўваць,—Магілеўскай, Аршанскай і Віцебскай акруг. Яна нясе з сабою таксама багатыя пэрспэктывы ў сэнсе разьвіцьця ў гэтым раёне буйнай прамысловасьці, прычым выгоднае геаграфічнае становішча ўсяго гэтага раёну—скрыжаваньне чыгунак і водных шляхоў-зносін—забясьпечвае гэтай прамысловасьці рынак збыту. Мы лічым, што гэтая Асінаўская Раённая Электрычная Станцыя зьявіцца асноўным фундамантам у справе далейшага пашырэньня нашай прамысловасьці і рэорганізацыі яе на новых тэхнічных пачатках.

Другая задача, якая стаіць перад прамысловасьцю—гэта зрабіць больш таннымі яе тавары. Пытаньне гэта будзе канчаткова вырашана пасьля рэконструкцыі прамысловасьці, калі мы будзем мець зусім нормальныя цэны і здолеем конкураваць з заходня-эўропейскім рынкам. Але і ў гэтых умовах мы можам і абавязаны зрабіць многа для таго, каб цэны на прамысловыя тавары ўсё-ж зьменшыць, бо пры цяперашнім палажэньні некаторыя фабрыкі і заводы ўжо і зараз ня могуць конкураваць у цэлым шэрагу тавараў з іншымі прадпрыемствамі Савецкага Саюзу, бо наша прамысловасьць у выніку імпэрыялістычнай і грамадзянскай бойні была больш зруйнавана, чым у іншых мясцовасьцях Савецкага Саюзу. Для гэтага мы павінны дабіцца павялічэньня вытворчасьці працы рабочай клясы і зьнішчыць такія недахваты, як прагулы і г. д., разьвіць работу вытворчых нарад, узмоцніць удзел профсаюзаў у вытворчай рабоце прадпрыемстваў.

Перад намі стаіць галоўная задача—будаваць новыя прадпрыемствы. Тая прамысловасьць, якая ў нас цяпер ёсьць, ня здолее абхапіць усю тую вольную рабочую сілу, якая маецца ў нас у зьвязку з аграрнай перанаселенасьцю на вёсцы. Тут аднэй мэханізацыяй старых заводаў мы задаволіцца ня можам. З другога боку, у нас ёсьць усе даныя—апал, сыравіна (сельска-гаспадарчая і лясная), рабочая сіла—для далейшага прамысловага будаўніцтва. Мы ўжо гэтае прамысловае будаўніцтва пачалі. Да наступнага году нам трэба скончыць тыя новыя пабудовы, якія мы распачалі ў мінулым годзе, а іменна: дрэваапрацоўчы комбінат у Бабруйску, фабрыку запалак у Барысаве, скураны завод у Менску і цэлы шэраг іншых прадпрыемстваў.

У далейшым нашы галоўныя сродкі і ашчаднасьць, якія мы атрымліваем у выніку правядзеньня рэжыму экономіі, павінны зноў такі накіроўвацца на пашырэньне новага будаўніцтва. Савецкая Беларусь будзе толькі тады экономічна і політычна моцнаю рэспублікай, калі яна будзе мець магутныя кадры рабочай клясы. Мы будзем моцны ня тым, што будзем даваць сродкі на ваенныя справы, як гэта робіць польская буржуазія, а тым, што будзем павялічаць шэрагі

нашай рабочай клясы, пашыраць прамысловасьць, узмацняючы і разьвіваючы гэтым самым усю народную гаспадарку. Наша прыгранічнасьць прымушае нас ажыцьцяўленьнем гэтае задачы павялічыць сілы пролетарыяту для таго, каб Савецкі Саюз меў на граніцы сваёй з буржуазнай дзяржавай моцны аванпост.

У задачы майго дакладу не ўваходзіць пытаньне аб тым, як мы будзем далей праводзіць індустрыялізацыю Савецкай Беларусі. Зьезд Комуністычнай партыі Беларусі, які гэтымі днямі скончыўся, канчаткова вырашыў гэтае пытаньне. Ён сказаў, што мы павінны будаваць ня толькі такія фабрыкі, якія пераапрацоўваюць лясную і сельска-гаспадарчую сыравіну, але і такія, якія будуць выраблять продукцыю, патрэбную для задаволеньня нашага рынку, як, напрыклад, сельска-гаспадарчыя машыны і прылады, тэкстыльныя тавары і г. д. Я думаю, што мы гэтую дырэктыву нашае партыі будзем ажыцьцяўляць у інтарэсах нашай прамысловасьці і ўмацаваньня БССР.

У найблізшы час Савет Народных Камісараў разгледзіць 5-гадовы плян аднаўленьня нашай прамысловасьці і ўсяе народнае гаспадаркі. У гэтым пляне мы скажам конкрэтна, у якой меры, якія галіны прамысловасьці і ў якіх акругах мы будзем разьвіваць у гэтыя гады. Але ў парадку дню нашае Сэсіі ЦВК стаіць таксама пытаньне аб нашай прамысловасьці, і па гэтым дакладзе Сэсія павінна будзе паказаць асноўныя прынцыпы, па якіх мы будзем праводзіць гэтую работу.

У зьвязку з далейшым разьвіцьцём прамысловасьці, перад намі стаіць задача будаваньня кватэр для рабочых. Цяперашні жыльлёвы крызіс, які адчуваюць нашыя рабочыя ў горадзе, зьяўляецца моцнай перашкодай для пашырэньня прамысловасьці, бо пашырэньне прамысловасьці зьвязана з павялічэньнем ліку работ, а апошняе выклікае неабходнасьць пашырэньня кватэрнага будаўніцтва. Але тут сродкамі выключна аднаго дзяржаўнага бюджэту мы кватэрнага крызісу ня зьнішчым. Для таго, каб задаволіць кватэрную патрэбнасьць у вадным гор. Менску па існуючай санітарнай норме, нам неабходна на працягу 5-ці год адпускаць на кватэрнае будаўніцтва ў Менску па 9.000.000 руб. штогод. Для таго, каб зразумець, якая вялікая гэта сума для нашага бюджэту, даволі напамянуць вам, што бюджэт усяе Менскае акругі, г. зн. выдаткі на ўсе мерапрыемствы па гэтай акрузе—і прамысловыя, і сельска-гаспадарчыя, і па ахове здароўя, і па народнай асьвеце, і па савецкаму апарату, і г. д., і г. д.—складае ўсяго толькі 6.000.000 руб. Ясна, што мы ніколі не здолеем аднымі бюджэтнымі сіламі вырашыць гэтае нездаровае кватэрнае пытаньне. І тут мы павінны паставіць задачу пашырэньня і разьвіцьця жыльлёвых таварыстваў, г. зн. задачу дзейнага і актыўнага ўдзелу ў кватэрным будаўніцтве самое рабочае клясы. На гэтае пытаньне нам трэба будзе завастрыць увагу, каб пры дапамозе рабочае клясы хутчэй вырашыць кватэрны крызіс.

Разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі, у прыватнасьці, умацаваньне яго таварнай часьці, цесна зьвязана з разьвіцьцём прамысловасьці, якая зьяўляецца асноўным і пераважным спажыўцом сельска-гаспадарчае сыравіны і грае, такім парадкам, ролю штурхача ў разьвіцьці сельскай гаспадаркі. Наша галоўная задача датуль, пакуль сельская гаспадарка была ўся зруйнаванай, заключалася ў тым, каб уздымаць вытворчыя сілы сельскай гаспадаркі. Сёньня, калі мы дасягнулі даваеннага ўзроўню сельскай гаспадаркі, перад намі, поруч з далейшым узьняцьцем вытворчых сіл, становіцца яшчэ другая задача—накіроўваць гэтыя вытворчыя сілы ў сельскай гаспадарцы па колектыўнаму, соцыялістычнаму цячэньню. Ажыцьцяўленьне гэтай задачы вымагае ад нас павялічанай увагі да сельскай гаспадаркі, бо яна абазна-

чае, што мы павінны імкнуцца разьвіваць і ўмацоўваць социялістычныя элемэнты на вёсцы хутчэй, чым растуць там элемэнты капіталістычныя.

Мы ня можам пахваліцца вялікімі посьпехамі ў галіне ўмацаваньня гэтых социялістычных элемэнтаў у сельскай гаспадарцы; яны, праўда, колькасна павялічваюцца: павялічваецца наша сельска-гаспадарчая коопэрацыя, павялічваецца стан беднаты, узмацняецца ўплыў бядняцка-серадняцкага блёку ў вясковых саветах, у камітэтах узаемадапамогі і г. д., але якасны бок нашае работы яшчэ стаіць не на патрэбна высокай ступені; у прыватнасьці, слаба разьвіта актыўнасьць сялянства ў сельскай гаспадарчай коопэрацыі, слаба мы праводзім работу па колектывізацыі і г. д.

Тры галоўныя задачы ставім мы перад сабой у галіне сельскай гаспадаркі. Першая задача—пашырыць таварную часьць у сельскай гаспадарцы; другая—ліквідаваць тую зямельную цеснату і беспрацоўе, якое мы на вёсцы маем; трэцяя задача, якая фактычна абхапляе сабою першыя дзьве і ўсю нашу работу на вёсцы,—гэта накіраваць разьвіцьцё нашай сельскай гаспадаркі па социялістычнаму цячэньню.

Якія цяжкасьці мы сустракаем пры выпаўненьні гэтых задач? Перш усяго, недахват капіталаў у сельскай гаспадаркі, потым—аграрная перанаселенасьць, урэшце, нязначная таварнасьць у продукцыі сялянскай гаспадаркі.

У зьвязку з недахватам капіталу ў сельскай гаспадарцы мы ставім перад сабою задачу пашырыць сельска-гаспадарчы крэдыт. І сапраўды, дзяржава штогод укладае ў капіталы сельска-гаспадарчага банку і крэдытных таварыстваў усё больш і больш сродкаў. Але ў далейшым мы ўжо ня здолеем укладаць у такім-жа разьмеры сродкі ў крэдытаваньне сельскай гаспадаркі, бо нам трэба ўсе асноўныя нашы сродкі кінуць на разьвіцьцё прамысловасьці, на індустрыялізацыю. Дзеля гэтага і тут таксама, як і ў кватэрным будаўніцтве у гарадох, дзе мы кажам, што без дапамогі ўсяе рабочае клясы мы кватэрнага крызісу не пераможам,—гэтак і тут мы павінны сказаць, што без дапамогі самога сялянства ў справе ўзмацненьня крэдытаваньня мерапрыемстваў па сельскай гаспадарцы мы далёка ня пойдзем.

З другога боку, калі мы паглядзімо, якую-ж суму складаюць да гэтае пары ўклады сялянства ў нашыя крэдытныя таварыствы, дык убачым, што яны яшчэ надзвычайна невялікія і складаюць усяго каля трох процантаў сялянскіх укладаў, быўшых у крэдыта-звароце сельскае гаспадаркі да вайны. Між тым мы бачым, што асобныя групы сялянства не затрачваюць тае гатоўкі грошай, якая ў іх маецца, а хаваюць яе ў сябе ў пячурках. Дзеля гэтага нам трэба будзе паставіць задачу і дамагчыся таго, каб сялянства павялічыла свае ўклады ў крэдытныя таварыствы, у касы ашчаднасьці і г. д., каб такім шляхам павялічыць сродкі па крэдытаваньню сельскай гаспадаркі.

Для таго, каб павялічыць таварную частку ў сялянскай гаспадарцы, мы павінны завастрыць нашую ўвагу на пытаньнях разьвіцьця жывёлаводзтва і пераапрацоўкі сельска-гаспадарчае сыравіны. Мы ўжо ў гэтым годзе правялі цэлы шэраг мерапрыемстваў і адпусьцілі спэцыяльныя сродкі для разьвіцьця мясцовай прамысловасьці, саматужнае, сельска-гаспадарчае коопэрацыі, на пашырэньне работ па пераапрацоўцы розных сельска-гаспадарчых продуктаў. Мне ўжо адзін раз прышлося гаварыць на адным з пленумаў Цэнтральнага Камітэту нашае партыі аб аднэй на першы погляд нібыта і драбязе, але на самай справе драбязе, якая мае вялікае значэньне ў справе павялічэньня таварнае часьці,—гэта адносна організацыі па пераапрацоўцы фруктаў,

у прыватнасьці, па выпрацоўцы так званага фруктовага мармяладу. Мы ўжо маем у гэтай галіне цэлы шэраг дасягненьняў у Аршанскай акрузе, дзе на падставе гэтага сялянская гаспадарка мае даволі вялікі прыбытак.

Потым нам трэба зьвярнуць увагу і ўжыць рад мер для пашырэньня пасеву тэхнічных культур, як лён, бульба, каноплі і г. д. Асабліва мы павінны зьвярнуць вялікую ўвагу на пашырэньне пасеву бульбы, якая да вайны іграла ў нас вялікую ролю і якая павінна і ў далейшым адыграць вялікую ролю.

Але самае галоўнае, што мы павінны зрабіць, з мэтаю павялічэньня таварнай часьці і паляпшэньня палажэньня сялянскае гаспадаркі,—гэта ўсімі спосабамі імкнуцца і ўсякімі спосабамі заахвочваць разьвіцьцё жывёлаводзтва, у прыватнасьці, сьвінаводзтва. У зьвязку з гэтым перад намі стаіць пытаньне аб неабходнасьці пропаганды ў сельскай гаспадарцы за павялічэньне пасеваў кораньплодаў і кармавых траў, бо ў нас на вёсцы зараз такое палажэньне, што за адсутнасьцю кармоў сялянская гаспадарка ня можа разводзіць быдла, і гэта зьяўляецца галоўным тормазам ў справе далейшага разьвіцьця жывёлаводзтва.

Асабліва вялікую ролю ў галіне разьвіцьця жывёлаводзтва павінна адыграць сельска-гаспадарчая коопэрацыя, якая павінна стымуляваць гэтую галіну шляхам організацыі розных таварыстваў па перапрацоўцы мясных і малочных продуктаў і г. д. І для таго, каб разьвіць гэтую габоту, мы пастанавілі спэцыяльна вылучыць з агульнае сыстэмы сельгаскоопэрацыі малочную коопэрацыю, на якую трэба і ў далейшым зьвярнуць больш увагі, чымся да гэтае пары, шляхам узмацненьня крэдытаваньня і г. д.

Другая задача, якую мы маем і ставім перад сельскаю гаспадаркаю,—гэта перамагчы тую аграрную перанаселенасьць, якая цяпер адчуваецца. Для гэтага мы перш усяго праводзім мэліорацыю, якая ў нашых умовах мае вялікае значэньне, бо да 10 проц. усяе зямлі БССР складаюць балоты, якія шляхам меліораваньня можна абярнуць у добрую сельска-гаспадарчую плошчу.

Тав. Прышчэпаў у зьвязку з пытаньнем, якое стаіць ў парадку дня Сэсіі, аб зацьвярджэньні Водна-Меліорацыйнага Кодэксу, вам падрабязна даложыць, якія мерапрыемствы ў гэтай галіне распрацаваны Саветам Народных Камісараў і аб той ролі, якую грае меліорацыя ў умовах БССР.

Але, зразумела, павялічэньне зямельнага фонду ў выніку меліорацыі ня здолее заняць вытворчаю працаю ўвесь лішак вольнае рабочае сілы, якую мы маем на вёсцы.

З другога боку, наша прамысловасьць таксама ў бліжэйшыя гады ня здолее ўвабраць у сябе гэтую частку вёскі, якая пролетарызуецца, і таму да шасьцісот тысяч чалавек мы перасяляем у іншыя часьці Савецкага Саюзу—на Урал, у Сібір, на Каўказ і г. д. Гэта, зразумела, крыху паменшыць беспрацоўе на вёсцы, але, поруч з гэтым, мы павінны ўжыць і іншыя захады для таго, каб выкарыстаць усю рабочую сілу ў сельскай гаспадарцы. Гэтыя захады: разьвіцьцё пасеву працаёмкіх культур, пашырэньне саматужных промыслаў.

І, урэшце, у зьвязку з трэцяй задачай, якая стаіць перад намі, задачай па накіраваньні вытворчых сіл сельскай гаспадаркі па соцыялістычнаму цячэньню, асабліва вялікае значэньне набывае работа сельска-гаспадарчай коопэрацыі. Яна павінна адыграць вялікую ролю ў справе колектывізацыі сялянскай гаспадаркі шляхам організацыі розных таварыстваў—машынных, таварыстваў па перапрацоўцы

сельска-гаспадарчай сыравіны (бульбацёрачныя, крухмальна-патачныя, садоўніцкія і інш.), жывёлаводзкіх таварыстваў, у прыватнасьці, розных малочных арцеляй і г. д.

Нарэшце, апошняя важная задача, якая стаіць перад намі ў сельскай гаспадарцы, гэта задача па забесьпячэньню сялянства апалам. Мы перадалі сялянству значную колькасьць лясоў мясцовага значэньня, але іх не хапае для задаволеньня патрэб насельніцтва.

З другога боку, нашыя лясы значна высечаны, і мы павінны ў далейшым аднесьціся да іх больш беражна для таго, каб захаваць гэтае нашае асноўнае багацьце. З гэтае прычыны мы павінны стала паставіць пытаньне аб узмацненьні распрацоўкі торфу і ўжываньня яго ў якасьці апалу ў сялянскай гаспадарцы. Пытаньне гэта, на першы погляд, быццам чыста экономічнае, прымае, аднак, і палітычную водцень, бо, калі селянін сядзіць у няпаленай хаце, дык ён і газэты ня будзе чытаць, ды і настрой яго да савецкае ўлады будзе не такі, які нам патрэбен.

Таму нам трэба навучыць селяніна здабываць торф. Мы павінны дапамагчы яму ў гэтым шляхам пасылкі адпаведных інструктароў, якія-б растлумачылі яму, як весьці гэтую працу, як гэты танны апал ужываць. Мы павінны таксама дапамагчы яму шляхам крэдытаваньня, організаваўшы спэцыяльныя тарфяныя таварыствы і прадаставіць ім крэдыт і г. д.

Ня буду падрабязна спыняцца на пытаньнях гандлю і бюджэту. Тав. Васілевіч і тав. Адамайціс вам падрабязна аб гэтым раскажуць. Адзначу толькі, што ў галіне гандлю перад намі стаіць бліжэйшая і важнейшая задача ў зьвязку з тым курсам на разьвіцьцё жывёлаводзтва, які мы ўзялі ў вёсцы,—гэта ўмацаваць жывёлаводчы рынак, бо ў нашых умовах ён іграе вялікую ролю, значна большую, чымсь хлебны рынак. Гэта відаць, напрыклад, з дзьвёх лічбаў: у 1925-26 г. сялянства выкінула на рынак продуктаў жывёлаводзтва на 70 міл. руб., тады як продуктаў зернявых культур яго ў тым-жа годзе выкінула на рынак у суме каля 5 міл. руб. Вось чаму мы на організацыю жывёлаводчага рынку павінны зьвярнуць асаблівую ўвагу. Гэты рынак у нас знаходзіцца яшчэ ў значнай меры ў руках прыватнага гандляра. У той-жа час мы павінны ўпарадкаваць становішча нашых бойняў, пабудаваць халадзільнікі і г. д.; усё гэта будзе ўзмацняць наш уплыў на рынку і ў той-жа час дапамагаць разьвіцьцю жывёлаводзтва.

Другое цэнтральнае пытаньне ў галіне гандлю—гэта задача па далейшаму зьніжэньню розьнічных цэн. Тут нібы пэўнае дасягненьне ёсьць, але мы ня можам гэтым задаволіцца, і на гэтай працы мы павінны завастрыць увагу ўсяе савецкае грамадзкасьці, рабочых мас, для таго, каб у далейшым ня толькі праводзілася зьверху праца па зьніжэньню розьнічных цэн, але каб і самі масы дапамагалі нам у гэтай працы. Гэта задача зьяўляецца задачаю вялізнае палітычнае важнасьці, бо шляхам рэгуляваньня цэн мы ўвязваем інтарэсы гораду і вёскі. Пры правільнай нашай палітыцы ў гэтай галіне мы злучаем інтарэсы прамысловасьці і сельскае гаспадаркі, увязваючы іх і дапамагаючы нормальнаму разьвіцьцю ўсяе народнае гаспадаркі. Пры якіх-небудзь памылках у гэтай працы мы можам атрымаць размычку, можам выклікаць сур'ёзныя крызісы ў той ці іншай галіне нашае гаспадаркі.

У галіне культурнае працы мы ставім перад сабою задачу: усе сродкі, якія мы даём на разьвіцьцё культуры, на ахову здароўя і г. д., правільна выкарыстоўваць у інтарэсах працоўных мас. На ўсе гэтыя патрэбы—асьвету, ахову здароўя, соцыяльнае забясьпячэньне і г. д.—

мы даём больш паловы ўсіх нашых сродкаў, якія мы адпускаем па бюджэту. Больш мы ў будучым наўрад ці здолеем даваць, і ў далейшым наша праца будзе складацца з таго, каб гэтыя сродкі выкарыстаць рацыянальна, выдаючы іх на сапраўды неабходныя патрэбы. У гэтай галіне трэба ў далейшым узмацняць і паляпшаць працу нашых школ, імкнучыся да правядзеньня ў жыцьцё таго дзесяцігодняга пляну школьнага будаўніцтва і ліквідацыі няпісьменнасьці, які мы прынялі, забясьпечваючы школы патрэбнымі падручнікамі, настаўнікамі і г. д. Трэба нашы культурна-асьветныя ўстановы паставіць у такія ўмовы, каб яны працавалі лепш, чымсь у капіталістычным краі. Аб гэтым шмат гаварыў Ленін і да гэтага мы павінны імкнуцца. Мы павінны таксама пашыраць і ўзмацняць палітычна-асьветную працу ў вёсцы, шляхам палепшаньня становішча хат-чытален, нардамоў і г. д.

Рэшту-ж выдаткаў мы павінны стабілізаваць і скараціць для таго, каб шляхам гэтае экономіі выкарыстаць больш сродкаў на прамысловае будаўніцтва.

Гэтак-жа сама мы павінны ўвесь наш бюджэт пабудаваць такім чынам, каб скараціць нерацыянальныя выдаткі, павялічыць выдаткі на вытворчыя патрэбы, на прамысловую і сельскую гаспадарку. Але трэба адзначыць, што ня гледзячы на тое, што бюджэт наш усё далей павялічваецца за кошт росту непадатковых прыбыткаў, ня гледзячы на тое, што мы павялічваем падаткі на гарадзкую і сельскую буржуазію, усё-ж далейшы тэмп росту бюджэту будзе крыху меншы, чымсь ён быў да гэтага часу.

У галіне савецкага будаўніцтва наша галоўная задача—павялічыць актыўны ўдзел працоўных мас ва ўсёй нашай працы. Масавы ўдзел рабочых і сялян у нашым будаўніцтве праз нашу савецкую сыстэму—гэта ёсьць адзін з тых асноўных момантаў, які адрозьнівае нас ад капіталістычных дзяржаў. І наша задача ў далейшым—узмацніць актыўны ўдзел працоўных, ажывіць дзейнасьць гарадзкіх саветаў, мястэчковых саветаў, сельскіх саветаў і іх камісій. Мы да гэтага часу яшчэ недахватна тут папрацавалі. У надыходзячай перавыбарнай кампаніі нам трэба імкнуцца да таго, каб павялічыць процант рабочых у нашых гарадзкіх саветах, процант беднаты і сераднякоў у сельскіх саветах і дабіцца таго, каб ні аднаго кулака ў вёсцы, ні аднаго нэпмана ў горадзе ня было ў нашых саветах.

Ясна, што на аснове разьвіцьця прыватна-капіталістычных адносін мы маем зараз у вёсцы барацьбу кулака за экономічныя і палітычныя позыцыі. Гэта барацьба цяпер ідзе ў форме барацьбы за серадняка—цэнтральную фігуру ў вёсцы. Нам для канчатковай перамогі над кулаком трэба ізоляваць кулака ад серадняка, мацней аб'яднаць бядняцка-серадняцкі блёк.

Мы можам быць упэўнены ў тым, што ў выніку нашае правільнае політыкі ў вёсцы і ў выніку таго, што сялянства падтрымоўвае рабочую клясу і Комуністычную партыю,—мы на надыходзячых перавыбарах саветаў у вёсцы пераможам. Але ўсё-ткі мы ў той-жа час павінны дабівацца таго, каб у саветы былі абраны такія працаўнікі, якія-б, добра ведаючы ўмовы жыцьця селяніна і яго быт,—дапамагалі-б нам у той вялікай працы і ў тых буйных задачах, якія стаяць перад намі. Усе гэтыя задачы мы зможам ажыцьцявіць досыць пасьпешна, калі ў гэтых саветах будуць падабраны добрыя і энэргічныя працаўнікі, якія-б правільна праводзілі нашы дырэктывы.

Адначасна з гэтым мы для паляпшэньня нашае працы павінны старацца дабівацца таго, каб нашыя дырэктывы своечасова і правільна выконваліся. У нас дырэктыў ёсьць ужо досыць, яны поўнасьцю

вызначаюць тыя шляхі, па якіх мы павінны ісьці. Трэба толькі паста-рацца іх правесьці. І мы ў нашай савецкай працы павінны разам з падборам добрых працаўнікоў ва ўсіх саветах адначасна завастрыць пытаньне аб выкананьні ўсіх нашых дырэктыў.

Тут, такім чынам, мы павінны адначасна праверыць, і ў далейшым няўхільна правяраць, як выконваюцца нашы дырэктывы. Калі мы даб'ёмся своечасовага выкананьня нашых заданьняў, тады мы тым самым зьменшым бюрократызм, які ёсьць у нашым апараце, як у зьвязку з тым, што ў нас ня ўсюды яшчэ падабраны досыць моцныя працаўнікі, так і ў зьвязку з тым, што мы яшчэ часам ня ўмеем досыць добра працаваць.

У галіне ажыцьцяўленьня нашае нацыянальнае політыкі, перад намі стаіць задача абслужыць на роднай мове ўсе нацыянальнасьці, якія насяляюць БССР. Але адначасна з гэтым наша задача была і за-стаецца ў далейшым—гэта беларусізацыя нашага апарату, нашых культурных і іншых устаноў. Зразумела, у далучаных да нас Гомель-скай і Рэчыцкай акругах трэба будзе гэту беларусізацыю праводзіць паступова, вызначаючы больш позьнія тэрміны беларусізацыі, чымсь яны вызначаны ў старой БССР. Але далучэньне Гомельшчыны і Рэ-чыцы ня можа спыніць правядзеньня нашае політыкі па беларусізацыі, і гэту задачу мы павінны выканаць поўнасьцю ў вызначаныя тэрміны.

У нашай нацыянальнай політыцы высоўваецца асобнае пытань-не—гэта барацьба з беларускім і вялікарасійскім шовінізмам, якія ў нас наглядаюцца. Некаторым не падабаецца наша нацыянальная політыка; што-ж,—кажуць яны,—у Беларусі ўсе нацыянальнасьці роўнапраў-ныя і г. д. Па іх думцы, трэба зрабіць так, каб беларуская нацыяналь-насьць, як нацыянальная большасьць, іграла пераважаючую ролю, а ўсе іншыя нацыянальнасьці павінны падначаліцца беларускай. Гэта бур-жуазны падыход, і мы з гэтым ніяк ня можам згадзіцца. Мы кажам, што той, хто хоча інтарэсы аднае нацыянальнасьці падначаліць інта-рэсам другой нацыянальнасьці, усякі той, хто прабуе прыгнятаць тую ці іншую нацыянальную меншасьць, праводзіць чужую нам політыку і павінен быць пакараны згодна існуючых савецкіх законаў, бо па са-вецкіх законах усе нацыянальнасьці роўныя, і мы павінны ўсе нацыя-нальнасьці абслугоўваць аднолькава. Але, зразумела, мы наш савецкі апарат і школы павінны былі беларусізаваць і на беларускую нацыя-нальнасьць зьвярнуць больш увагі, таму што яна больш другіх на-цыянальнасьцяй адстала ў сваім разьвіцьці, і ёй трэба дапамагчы ўзьняцца на аднолькавую культурную ступень з другімі нацыяналь-насьцямі—расійскай, польскай і г. д.

Адначасова мы павінны дапамагчы і яўрэйскай нацыянальнасьці, асабліва местачковаму яўрэйскаму насельніцтву, якое знаходзіцца ў цяжкіх экономічных умовах. Мы павінны і далей праводзіць зямляна-дзяленьне яўрэйскага насельніцтва, якое жадае перайсьці на сельска-гаспадарчую працу, мы павінны дапамагчы мястэчкам гаспадарча ўпарадкавацца і ўцягнуць местачковае насельніцтва ў вытворчую працу.

Мы абслугоўваем нашы нацыянальныя меншасьці праз нацыя-нальныя саветы, праз школы, праз кнігу, газэту. Гэта абслугоўваньне мы і далей павінны ажыцьцяўляць у такім-жа напрамку і такім-жа тэмпам, як да гэтага часу.

Як бачыце, усе гэтыя задачы, якія я тут намячаў, як асноўныя ў справе нашага далейшага будаўніцтва, выклікаюцца нашымі сучас-нымі ўмовамі ня толькі ў старой БССР, але і ў далучаных акругах— Гомельскай і Рэчыцкай. Гэтыя акругі ня маюць нейкіх асобных задач,

якіх-бы ў нас ня было, бо ў нас агульная экономіка, агульныя ўмовы гаспадаркі.

Беларускія эс-эры і беларускія дробна-буржуазныя колы заграваастраецца нацыянальнае пытаньне, для таго, каб больш поўна абслужыць на роднай мове ўсе тыя нацыянальнасьці, якія раней пры царызьме прыгняталіся і ня мелі магчымасьці разьвівацца.

Між інтарэсамі рабочых БССР і рабочых РСФСР, як і рабочых Украіны, Закаўказьзя і іншых Савецкіх рэспублік ня было і ня можа быць якіх-небудзь супярэчнасьцяй; у нас адна мэта—будаваць социялізм, і адны шляхі для дасягненьня гэтай мэты з большымі або меншымі складанасьцямі і труднасьцямі, выклікаемыя ўмовамі працы ў той ці іншай рэспубліцы.

Беларускія рабочыя і сяляне ў дні Кастрычнікавае рэволюцыі вялі барацьбу са сваёй буржуазіяй разам з працоўнымі ўсяе Савецкае Расіі. Беларускія працоўныя разам з усімі працоўнымі іншых Саюзных рэспублік і пры іх дапамозе вызваліліся ад уціску польскае буржуазіі стварылі сваю нацыянальную незалежную рэспубліку. Прыгранічнае становішча Савецкае Беларусі павінна яшчэ мацней нас зьвязваць з Савецкім Саюзам, бо толькі ён забясьпечвае нашу незалежнасьць, нашу свабоду і заваёвы рабочае клясы і сялянства.

Беларускія эс-эры і беларускія дробна-буржуазныя колы за граніцаю ўвесь час сьцьвярджаюць, што Беларусь знаходзіцца пад «уплывам» Масквы. Яны, бязумоўна, разумеюць, што калі той ці іншы народ працуе ў цеснай сувязі з другім народам, маючы агульныя інтарэсы, дык гэта па іхняму значыць, што ён знаходзіцца пад уплывам гэтага другога народа. У Савецкім Саюзе няма і ня можа быць націску аднае нацыянальнасьці на другую. Але яны ману гэту падтрымоўваюць дзеля таго, каб іграючы на струнках нацыянальнага шовінізму, захаваць праўду, што ва ўмовах буржуазнае дзяржавы няма і ня можа быць свабоднае самастойнае політыкі. І сапраўды, возьмем Польшчу. Яна цалком залежыць ад Англіі, ангельская буржуазія фактычна кіруе і Літвою. Ва ўмовах буржуазнае дзяржавы дробныя нацыянальнасьці заўсёды прыгнятаюцца больш буйнымі. Ва ўмовах-жа Савецкага Саюзу гэтага прыгнечаньня няма. Маленькая БССР мае ў СССР такія-ж правы, як і больш буйныя рэспублікі—Украіна, РСФСР і іншыя. І Савецкі Саюз аказвае аднолькавую дапамогу ўсім Саюзным рэспублікам, падтрымоўваючы найбольш адсталыя, даючы ім магчымасьць параўнаецца з перадавымі, у культурных адносінах, нацыянальнасьцямі.

Без дапамогі Савецкага Саюзу мы не маглі-б скінуць з сябе ярма польскае буржуазіі; мы не маглі-б без яго дапамогі вырашыць правільна ў сябе нацыянальнае пытаньне, мы не маглі-б самі аднавіць сваю разбураную гаспадарку. Таму мы павінны і далей узмацняць сувязь з Савецкім Саюзам, бо без дапамогі Саюзу мы ня зможам вытрымаць напору польскай і ангельскай буржуазіі, якія падрыхтоўваюць супроць нас вайну.

Канчаючы свой даклад, я спыняюся яшчэ на адным пытаньні, якому мы ў далейшым павінны таксама аддаць больш увагі, чым да гэтага часу—гэта на пытаньні аб Чырвонай арміі.

Мы, зразумела, ня можам ставіць перад сабою задачу вайсковага ўзброеньня Савецкага Саюзу, у прыватнасьці, Савецкае Беларусі, так, як гэта робяць буржуаныя дзяржавы—Польшча і іншыя.
сіла, а значыць і наша галоўная задача, у тым, каб адраджаць нашую гаспадарку, паляпшаць становішча насельніцтва, узмацняць элементы социялістычнае гаспадаркі. Але праводзячы гэту мірную гаспадарчую

культурную працу, праводзячы політыку міра, якой мы кіруемся пры ўзаемаадносінах з усімі іншымі дзяржавамі, мы ў той-ж час павінны аддаваць больш увагі нашай Чырвонай арміі, узмацненьню яе сілы і абароназдольнасьці для таго, каб яна магла абараняць нашую мірную працу ад магчымых на нас нападаў; магутная і моцная Чырвоная армія абараняе нас ад нападаў буржуазіі, якая з кожным днём рыхтуецца да гэтага ўсё больш і больш.

Але кожны з нас павінен памятаць, што, узмацняючы нашую гаспадарку, мы гэтым самым узмацняем моц Саюзу.

Старшыня: Пераходзім да спрэчак па дакладу т. Адамовіча. Слова ў парадку спрэчак мае тав. Жылуновіч.

Тав. Жылуновіч: Калі мы паглядзім назад на пройдзенае васьмігодняе існаваньне Савецкай Беларусі і прасочым тую політыку, якую правёў Савецкі ўрад у Беларусі на працягу гэтых гадоў, дык мы адзначым, што галоўнай часткай гэтай політыкі, бязумоўна, зьяўляецца нацыянальнае пытаньне. Ужо ў пачатку існаваньня Савецкай улады, на другі дзень пасьля яе пераходу да жыцьця, мы сустрэліся з рашучай пастаноўкай нацыянальнага пытаньня, якое было абвешчана Савецкім урадам цэлым шэрагам законаў і дэкларацый, выданых у першыя дні пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі. Так, бачым першую дэкларацыю праў народаў Расіі, у якой урад, зьвяртаючыся да рабочых і сялян, казаў (чытае вытрымкі з дэкларацыі). «Раскрепощаются крестьяне от власти помещиков, ибо нет больше помещичьей собственности на землю—она упразднена. Раскрепощаются солдаты и матросы от власти самодержавных генералов, ибо генералы отныне будут выборными и сменяемыми. Раскрепощаются рабочие от капризов и произвола капиталистов, ибо отныне будет установлен контроль рабочих над заводами и фабриками. Все живое и жизнеспособное раскрепощается от ненавистных оков. Остаются только народы России, терпевшие и терпящие гнет и произвол, к раскрепощению которых должно быть приступлено немедленно, освобождение которых должно быть проведено решительно и бесповоротно.

В эпоху царизма народы России систематически натравливались друг на друга. Результаты такой политики известны: резня и погромы, с одной стороны, рабство народов—с другой.

Этой позорной политике нет и не должно быть возврата. Отныне она должна быть заменена политикой добровольного и честного союза народов России».

І далей, у дэкларацыі праў працоўнага і эксплёатаванага народу Савецкі ўрад яшчэ раз падкрэсьліў права на свабоднае выяўленьне волі працоўных мас рэспублікі, якое прадбачыла далейшае будаўніцтва Савецкага Саюзу. У дэкларацыі гаварылася, што «расійская рэспубліка асноўваецца на грунце свабоднага саюзу свабодных нацый, як фэдэрацыя савецкіх нацыянальных рэспублік». Гэтыя словы адносіліся, разумеецца, да ўсіх тых нацыянальнасьцяй, якія ў значнай колькасьці засялялі старую Расію. І з гэтага часу пачынаецца асаблівa шпаркае будаўніцтва нацыянальных савецкіх рэспублік. У канцы 1918 г. будуецца адна за другой цэлы шэраг такіх рэспублік. Першай з іх абвяшчаецца рэспубліка Украінская, далей ідзе рэспубліка Літоўская, Латвійская і ў канцы 1918 г., фактычна 1-га студзеня 1919 г., абвяшчаецца Беларуская Соцыялістычная Рэспубліка. Перад гэтым ужо ў пачатку 1918 г. Савецкі ўрад, агульна-расійскі ў той час, зьвярнуў увагу на вырашэньне нацыянальнага пытаньня тутака ў нас, на Беларусі.

У пачатку гэтага году была заснована інстытуцыя, якая называлася Беларускім Нацыянальным Камісарыятам і якой было даручана вырашаць і падрыхтоўваць далейшае вырашэньне нацыянальна-дзяржаўных пытаньняў Беларусі. Гэты факт сам сабой зьяўляўся адным з найважнейшых, найгалоўнейшых у гісторыі жыцьця Беларусі. Да гэтага часу Беларусь лічылася заходнімі акраінамі самаўладнай Расіі і, ня маючы сабе назвы, стала называцца Беларусьсю. І вось дзяржаўнае будаўніцтва гэтай Беларусі і было вырашана 1-га студзеня 1919 г. У той час маніфэстам часовага ўраду была абвешчана соцыялістычная рэспубліка ў этнографічных граніцах.

Само сабой зразумела, гэты гістарычны факт у прадстаўленьні суседзяў, асабліва заходніх, зьяўляўся фактам, нячуваным у гісторыі. Не маглі яны ўявіць сабе такое зьявішча, каб з народу, які доўгія вякі знаходзіўся ў стане колёніі то аднэй, то другой дзяржавы, нарадзілася самастойная, вольная дзяржава, каб народ быў прызваны да вольнага будаўніцтва свайго жыцьця. Зразумела, што, дзякуючы гэтаму, Польшча пачала рабіць усе захады да таго, каб як-небудзь перашкодзіць гэтай аднаўленчай імпэтнасьці па будаўніцтву Савецкай Беларусі. Польскі напад на Савецкія рэспублікі спыніў першыя крокі будаўніцтва Беларускай рэспублікі, якое было зьвязана з вялікім энтузыязмам і творчай энэргіяй беларускіх працоўных мас. Зноў знашлася магчымасьць яго аднавіць толькі пасьля вызваленьня з-пад польскай окупацыі. Тады яно пашло з новай энэргіяй.

У 1924 годзе мы бачым, што пачынаецца збор тых зямель беларускіх, якія да гэтага часу, дзякуючы многім прычынам, былі ў розных мясцох, і з таго часу ўжо пашыраная Савецкая Беларусь адыгрывае вялікую ролю ў тым, што зьяўляецца конкрэтна выяўленьнем нацыянальнай політыкі Беларускага ўраду.

Калі мы нават паглядзім на гэты шлях, то ўбачым, што ідзе пашырэньне Савецкай Беларусі і, разам з тым, ідзе, галоўным чынам, культурнае адраджэньне. Да гэтага часу, да прыходу Савецкай улады, фактычна Беларусі, як такой, ня было, і толькі політыкай Савецкай улады пачынаецца кіпучая культурная творчасьць беларускага працоўнага народу. Зразумела, што праз гэту творчасьць ішло адраджэньне да гэтага часу невядомага народу. Гэта выклікала сполах у тых, хто бачыў рэволюцыянізаваньне народу шляхам вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Варожыя Савецкай уладзе людзі стараліся ўсімі спосабамі перашкодзіць нацыянальнаму адраджэньню Беларусі. Больш усяго з гэтага боку работа йшла ў суседніх дзяржавах, асабліва ў тых, якія межаваліся з Беларусьсю. Бо савецкае вырашэньне нацыянальнага пытаньня зьяўляецца рэволюцыянізуючым фактарам ня толькі для рабочых і сялян нацыі, якая ажыцьцяўляе гэтую політыку, але і для працоўных гушчаў тых народаў, якія бачаць, як гэта нацполітыка праводзіцца, і якія яна дае вынікі. Зразумела, што нацыянальная політыка ўзбурыла і тую эміграцыю, якая знаходзілася ў вялікім ліку заграніцай і ўсімі сіламі старалася пашкодзіць гэтай самай нацыянальнай політыцы.

У апошні час, калі толькі ў нас адбыўся новы факт узбуйненьня Савецкае Беларусі, мы бачым, што ёсьць цэлы шэраг такіх людзей, якія ізноў стаяць на сваіх позыцыях заховы непадзельнае Расіі. У сваіх лямантах яны абапіраюцца на факты правядзеньня украінізацыі, узбуйненьня Беларускае Савецкае Рэспублікі, правядзеньня беларусізацыі і г. д.

І вось водгук гэтых настрояў, сымптомы іх адмячаюцца і сярод эмігрантаў, якія засталіся тут, якія хаваюцца і якія таксама маюць тыя

ці іншыя супярэчаньні Савецкай уладзе. Унутраныя эміґранты націскаюць на тое, што вырашэньне нацыянальнае політыкі ідзе на шкоду ня толькі агульным інтарэсам усяго Саюзу, але шкодзіць і ўсяму будаўніцтву асобнай рэспублікі. Кожны раз, як толькі Савецкі ўрад хоча абмяркаваць нацыянальныя пытаньні, калі так ці інакш хоча выправіць тыя або іншыя няроўнасьці ў іх вырашэньні, мы чуем галасы прытаёных эміґрантаў: «Вось, сам Савецкі ўрад ня верыць у сваю лінію, а таму, давайце, адцягнем беларусізацыю на далей». Такіх фактаў можна прывесьці шмат.

Мы зазначым на той факт, які наглядаўся ў мінулым годзе ў Полаччыне, калі на чале гэткай плыні стаялі вядомыя чорнасоценныя чыноўнікі, як Пігулеўскі, Пшчолка і інш.

Апошняе ўзбуйненьне Савецкае Беларусі (прылучэньне Гомельшчыны) выклікае шмат гутарак і ў тых пластох беларускага насельніцтва, якія знаходзяцца на рубяжы Захаду. Некаторыя з іх цьвяроза глядзяць на гэта і кажуць, што факт узбуйненьня Беларусі зьяўляецца фактам таго імпульса, які ў далейшым дасьць магчымасьць разьвіць беларускую культуру, беларускую дзяржаўную думку, беларускае сельска-гаспадарчае і прамысловае будаўніцтва. Калі мы прыслухаемся, што гавораць перадавыя прадстаўнікі беларускага насельніцтва ў Латвіі, дык мы пачуем вось што: у газэце «Голас Беларуса» адносна факту ўзбуйненьня Беларусі пішацца (ч ы т а е): «Першы, хто вызнаў правы Беларусі на нацыянальна-дзяржаўнае будаўніцтва, быў рэволюцыйны Ўсход. Ён-жа дае прыклады і таго, якім чынам можа адбыцца процэс зьбіраньня ў адно цэлае разьдзёртых беларускіх тэрыторый. Ён уласным прыкладам паказвае, як лёгка, шляхам узаемных высьвятленьняў і перагавораў, можна вырашаць самыя балючыя міжнародныя пытаньні, пытаньні аб нацыянальных тэрыторыях».

Але ня ўсе прытрымліваюцца гэтых думак. Ёсьць людзі, якія інача судзяць аб гэтым, хоць і бачаць, што гэта справа вялікая, што работа, якая праводзіцца такім чынам, зьяўляецца адной з важнейшых, адной з самых справядлівых спраў у сэнсе вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Перада мною газэта «Сялянская Ніва», якая дае такі водзыў аб пашырэньні Савецкае Беларусі. (Трэба сказаць, што гэта газэта зьяўляецца органам так званага «Сялянскага Саюзу», за сьпіною якога стаіць беларуская хрысьціянская дэмократыя). Вось як газэта піша (ч ы т а е): «Калі прылучэньне ў 1924 г. да Беларускае Рэспублікі вялікшай часьці Віцебшчыны і Магілеўшчыны рабіла на першы погляд уражаньне шчодрасьці з боку Маскоўшчыны, дык цяпер ёсьць уражаньне маскоўскай скупасьці. Перад намі зьявілася старая Масква, якую мы знаем, пачынаючы ад розных Васілёў і Іванаў у XIV стагодзьдзі. Масква і далей будзе трымацца рукамі і зубамі за кожную пядзю беларускае зямлі».

Справа ў тым, што фактычна гэта гаворыць і ня сам «Сялянскі Саюз», а гаворыць тыя грошы, якія даюцца «Сялянскаму Саюзу». Яшчэ зусім нядаўна газэта гэта выходзіла раз у тыдзень, а зараз яна атрымала магчымасьць выходзіць 2-3 разы. Гэту магчымасьць дала ёй польская ўлада праз прадстаўніка пэпээсаўцаў—Галоўка, які зараз стаіць на чале камісіі па вырашэньню нацыянальнага пытаньня, і грашыма дыктуе газэце «Сялянская ніва» гаварыць ў такім духу.

Як-жа вырашаецца нацыянальнае пытаньне там, дзе яно так востра стаіць, дзе і грашыма ня зґладзіць гэтае вострасьці, прынамсі,—у суседняй дзяржаве,—Польшчы? Зразумела, мы маглі-б менш цікавіцца гэтым пытаньнем, калі-б там ня было 3-х з паловай мільёнаў беларускіх сялян, якія, дзякуючы гэтай політыцы, знаходзяцца ў асабліва цяжкіх

умовах. Гэты самы Галоўка, які дае грошы на тое, каб беларускія пасланьнікі з хрысьціянскае дэмократыі гаварылі так, як патрэбна польскай уладзе, спрабуе вырашыць у гэтым напрамку і украінскае нацыянальнае пытаньне. З гэтай мэтаю і сам Пілсудзкі абяцае паехаць на Валынь, і мы бачым, што яго дарога зараз усьцілаецца сібернымі судовымі карамі сотняў украінскіх рабочых і сялян.

Само сабою зразумела, што нацыянальнае пытаньне, якое праводзіцца ў нас у такой рашучай форме, і справодзіцца вагромністымі культурнымі дасягненьнямі, ня можа ня дзівіць ня толькі нашых прыяцеляў, але і нашых ворагаў. Нейкі час таму назад у Менску адбывалася акадэмічная конфэрэнцыя, на якую зьехаліся заграннічныя вучоныя. Яны, азнаёміўшыся з культурнымі дасягненьнямі Савецкае Беларусі, вельмі дадатна адгукнуліся аб гэтым на лекцыях і ў друку. Возьмем хоць-бы профэсара Латвійскага Унівэрсітэту, Блесэ. Ён, зразумела, думае, што гэта нацыянальнае пытаньне ў Савецкай Беларусі вырашаецца не Комуністычнай партыяй, а некім іншым, але падкрэсьлівае, што вырашэньне нацыянальна палітыкі дае багатыя плёны і яркія пэрспэктывы.

Тое-ж самае мы чулі і ад цяперашняга міністра асьветы, вялікага поэты латвійскага, Райніса. Ён таксама падкрэсьліў, што нацыянальная палітыка Савецкае ўлады ў Беларусі далёка перавысіла ўсе тыя проэкты і пастановы, якія толькі чалавецтва да гэтага часу магло правясьці. Зразумела, што гэткая пастаноўка пытаньня ёсьць факт, які рэволюцыянізуе рабочыя масы. Мы бачым, як магутна нашая палітыка ўплывае на рабочых і сялян, якія знаходзяцца пад польскаю ўладаю. Тыя непарадкі, якія мы бачым у Заходняй Беларусі, зьяўляюцца шуканьнем выхаду, шуканьнем таго шляху, праз які можна было-б падсказаць польскаму ўраду, што трэба беларускім сялянам даць тое, што дадзена іх братом у Савецкай Беларусі. І ўсе думкі беларускіх селян у Заходняй Беларусі іменна накіраваны сюды. Зараз практыкуецца вялікі націск і нападкі на рабоча-сялянскую беларускую грамаду, якія фактычна займаюць увагу ўсіх польскіх газэт. Ня так даўно гэтай зьяве было прысьвечана некалькі артыкулаў у віленскай польскай прэсе, якая радзіла правясьці масавыя арышты. На гэта афіцыёз, Пілсудзкага «Голас Праўды» адказаў, што проэкт газэт—усю беларускую грамадзкасьць засадзіць у турму—ёсьць проэкт няпрытомных людзей. А праз месяц тая-ж самая газэта з вялікай радасьцю абвяшчае тэрміновую справаздачу польскага ўраду аб арышце цэлага шэрагу прадстаўнікоў беларускай інтэлігенцыі, беларускіх рабочых, сялян, у тым ліку і трох беларускіх паслоў польскага сойму. Яна, захлёбваючыся ад радасьці, гаворыць, што ў польскай канстытуцыі ёсьць такі парадак, па якому фактычна можна арыштоўваць членаў сойму ня пытаючы нават аб гэтым і ў маршалка сойму. І вось, калі маршалак даведаўся аб арышце і зьвярнуўся да міністра справядлівасьці Мейштовіча, дык яму сказалі: «Што мы, урад, арыштавалі гэтых членаў сойму ў ліку 3 чалавека таму, што злавілі іх на гарачым учынку, на рабоце, якая вядзе да дзяржаўнае здрады». Гэткім парадкам яны вырашаюць нацыянальную палітыку. Ня дарам-жа нова назначаны міністар асьветы, які замяніў Бартля, заявіў прадстаўніком нацменшасьцяй: «Дарэмна вы будзеце чакаць палягчэньня ў пытаньні нацыянальнае палітыкі». І запраўды, гэтага ня можа быць і ня будзе. Нацыянальная палітыка ў буржуазных краёх вырашаецца цяжка, ды і сам дух буржуазнага існаваньня ня можа дапусьціць да вырашэньня гэтага пытаньня. Ня дарам англійскі згоднік, быўшы прэм'ер, Макдональд, сказаў, што самае цяжкае пытаньне, якое зараз маецца і якое хвалюе думкі ўсіх эўропэйскіх урадаў,—гэта ёсьць пытаньне нацыянальнае паліты-

к.: Само сабою зразумела, што гэтае пытаньне надзвычайна цяжкае гады, калі яго вырашаць такім парадкам, як гэта робіць буржуазія. У Саветаў яно прыводзіць да тых вынікаў, якія мы маем зараз. Жыцьцё і гісторыя даказалі, што вырашыць нацыянальнае пытаньне могуць толькі тыя, хто вырашаў яго ў нас—гэта, бач, рабочыя і сяляне (воплескі).

Тав. Тоўсьцік: Тав. Адамовіч нам абвясьціў вялікую радасьць. Ён нам расказаў аб далучэньні Гомельшчыны і Рэчыцы. Вясною ў вёсцы сяляне з вялікай радасьцю сустракаюць першую зязюлю. Такую-ж радасьць прынёс нам зараз т. Адамовіч.

Гэтую вестку мы сустракаем з такой-жа радасьцю, як і першую зязюлю. Далучэньне Гомельшчыны мае для нас вялікае значэньне. Гомельшчына дапаможа нам у будаўніцтве соцыялізму, бо там маецца вялікая пролетарская база, там ёсьць многа фабрык і заводаў.

Савецкая рэспубліка, Савецкая ўлада клапоціцца аб навуцы; жадае, каб усе рабочыя і сяляне былі пісьменныя, і дзеля гэтага рабочых і сялян пасылаюць вучыцца.

Калі мы паглядзім, што робіцца ў Польшчы, дык мы ўбачым, што там сялян б'юць і дзяруць, як білі нашых бацькоў і дзядоў, як білі нас саміх у царскай Расіі. Абшарнік там зьяўляецца неабмежаваным гаспадаром: каго хоча, тога катуе, каго хоча, таго і мілуе.

Што вы думаеце, таварышы, калі-б Савецкай уладзе не ўдалося узяць уладу ў свае рукі, калі-б улада была ў буржуазіі, дык ці дала-б яна магчымасьць разьвіваць сельскую гаспадарку? Будавалі-б сваю гаспадарку толькі яны, а сельская гаспадарка адставала-б, крэдытаў не выдавалі. Савецкая ўлада ўсяляк імкнецца дапамагчы і падтрымаць сельскую гаспадарку. Яна дае доўгатэрміновы крэдыт на пяць год, на тры гады.

Тав. Адамовіч казаў аб працы. Вось гавораць, што тавараў не хапае, але-ж калі мы ўзмоцнім нашу працу, дык тавар будзе.

Тав. Адамовіч казаў аб лікпунктах. Трэба на лікпункты і вясковыя школы кінуць сродкі таму, што многа цёмных вёсак. Вазьмеце ў нас хлапца або дзяўчыну вясковую—яны няпісьменныя.

Тав. Тамашэўскі: Таварышы, я павінен сказаць, што тав. Адамовіч за кароткі час свайго дакладу вельмі добра далажыў аб пашырэньні Беларусі, аб праробленай працы і аб намечаных плянах працы, але мала датыкнуўся настрою сялянства ў тых мясцовасьцях, якія далучаюцца да Беларусі, і датыкнуцца іх ня можа, паколькі ня чуў яшчэ вёскі як Гомельскага, так і Рэчыцкага паветаў (Адамовіч—з месяц ў Гомлі быў). У Рэчыцах ня былі. Я, як селянін Рэчыцкага павету, павінен перадаць вам настрой сялян Рэчыцкага павету. Наша сялянства ўчарашняга Рэчыцкага павету, сёнешняй Рэчыцкай акругі, хоць доўгія гады было пад уціскам царызму, але ўсё-ж такі не запамятала свае роднае мовы і сваіх абрадаў. Мы бачым на практыцы з таго, што ў нашым павеце, згодна жаданьням, па просьбе сялянства, Савецкая ўлада організавала школы на беларускай мове. На сёнешні дзень за год працы мы бачым, што ў гэтых школах наша сялянскае дзіця лепей прысвойвае грамату, лягчэй працаваць настаўніку, хутчэй сялянскае дзіця разьвіваецца.

У многіх валасьцёх (гэта можа пацьвердзіць і тав. Чарвякоў), калі дачуліся аб далучэньні да Беларусі, віталі і далі тэлеграму ў ЦВК СССР (воплескі). Праўда, з вялікім жалем наша сялянства глядзіць на захад, дзе нашы беларусы яшчэ пад уціскам польскага капіталу, бо мы не забыліся аб 20 годзе, калі пераносілі катаваньні ад польскіх белагвар-

дзейцаў, якія прышлі на кароткі час, на 6 тыдняў, але гэтыя 6 тыдняў адбіліся на ўсіх нас. 6 тыдняў—ня 6 год, і, значыцца, беларусам, якія засталіся ў Польшчы, жывецца дрэнна, а дзеля гэтага сялянства Рэчыцкага павету з жалем шкадуе тых таварышоў-беларусаў, якія знаходзяцца за межамі.

Цяпер адносна пагроз заходняй буржуазіі. У сваім уступным слове тав. Чарвякоў сказаў, што ўся надзея на абарону Чырвонае арміі. Нашы сяляне Рэчыцкага павету, пасьля катаваньняў 20 году, гавораць, што Чырвоная армія складаецца з сыноў і братоў тых сялян, якія раней цярпелі ад палякаў, а таму яны не адстануць ад Чырвонай арміі (в о п л е с к і) ня толькі тады, калі трэба будзе абараняць свае цяперашнія межы, а будуць дабівацца таго, каб вызваліць і тых працоўных, якія ў сёнешні дзень знаходзяцца яшчэ пад уціскам польскага капіталу.

Цяпер, таварышы, пасьля майго кароткага выступленьня, я маю права, як селянін, ад імя сялянства Рэчыцкага павету прывітаць Комуністычную партыю за тое, што ўзята правільная лінія ў ажыцьцяўленьні нацыянальнае палітыкі (в о п л е с к і).

Тав. Ч а р в я к о ў: Час па рэгламанту вышаў, а дзеля гэтага зараз работа скончана. Заўтра раніцай а 10-ай гадзіне спрэчкі працягнуцца.

(Пасяджэньне зачыняецца а 9 гадзіне 25 мінут).